© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
21(77)
27 мая 1992 г.
Кошт 20 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

«УВЕДЗЕНЫ ЎСТУПНЫ ЭКЗАМЕН ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ВА ЎСІХ СЯРЭДНІХ СПЕЦЫЯЛЬНЫХ І, ВЫШЭЙШЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ».

*Міхась ДЗЯМЧУК,*
*намеснік Старшыні Савета Міністраў*

*Стар. 2*

■■■

«ВАЖНА ПЕРАВЕСЦІ СЛУЖБОВАЕ СПРАВАВОДСТВА РЭСПУБЛІКАНСКІХ ОРГАНАЎ УЛАДЫ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ...»

*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук*

*Стар. 3, 4*

■■■

«ГАЛОЎНАЕ — НЕ ДАЦЬ ЗАГІНУЦЬ НІВОДНАМУ ТВОРЧАМУ КАЛЕКТЫВУ».

*Яўген ВАЙТОВІЧ,*
*міністр культуры*

*Стар. 4*

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА І НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ

***Канферэнцыя, арганізаваная ТБМ імя Ф. Скарыны сумесна з Камісіяй Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны***



## Поступ тыдня

**АМАЛЬ СЕМ МІЛЬЕНАЎ РУБЛЁЎ АХВЯРАВАННЯЎ ПАСТУПІЛА Ў ЧАС ТЭЛЕМАРАФОНА «ВЫРАТУЕМ ДЗЯЦЕЙ» НА СПЕЦЫЯЛЬНЫ РАХУНАК У МЕНСКБІЗНЕСБАНКУ. КІМ І ЯК БУДУЦЬ ВЫКАРЫСТАНЫ ГЭТЫЯ ГРОШЫ?**

**19 мая на мяжы Гомельскай і Чарнігаўскай абласцей хросны ход сустрэў «Нязгасную лампаду славянскіх народаў», якая ўжо была пранесена праз Турцыю, Грэцыю, Балгарыю, Югаславію, Венгрыю, Чэха-Славакію, Польшчу і Украіну. «Нязгасная лампада», асвятліўшы Беларусь, 24 мая, у дзень святых Кірылы і Мяфодзія, была дастаўлена ў Маскву, дзе пачалося Свята славянскага пісьменства.**

***20 МАЯ БЕЛАРУСЬ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ ПРЭЗІДЭНТ ФІНЛЯНДЫІ МАУНА КОЙВІСТА. ПАСЛЯ ПЕРАМОЎ М. КОЙВІСТА СА СТАРШЫНЁЙ ВС БЕЛАРУСІ С. ШУШКЕВІЧАМ І СТАРШЫНЁЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ В. КЕБІЧАМ БЫЛО ПАДПІСАНА ДВУХБАКОВАЕ ПАГАДНЕННЕ АБ ГАНДЛІ І ЭКАНАМІЧНЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ.***

**З 25 МАЯ ВЫПУШЧАНЫ Ў АБАРАЧЭННЕ РАЗЛІКОВЫЯ БІЛЕТЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ. ЦЯПЕР ЗАРПЛАТА ЖЫХАРАМ РЭСПУБЛІКІ БУДЗЕ ВЫДАВАЦЦА НА 50 ПРАЦЭНТАЎ У РУБЛЯХ І НА 50 ПРАЦЭНТАЎ — у разліковых білетах. Значыць, грошы будуць. А дабрабыт?**

***Ніл ГІЛЕВІЧ,***
***старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета РБ, народны паэт Беларусі***

# *Незалежнасць немагчыма без нацыянальнай мовы*

Шаноўная грамада!

На парадак дня канферэнцыі мы вынеслі пытанне, важнасць і актуальнасць якога не выклікае ў нас сумнення. Мы глыбока перакананыя, што станаўленне і ўмацаванне Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы немагчыма без паспяховага вырашэння моўнай праблемы, іначай сказаць — без актыўнага ажыццяўлення прынятага два з гакам гады назад Закона аб мовах.

Для таго каб забяспечыць сабе дзяржаўнае самасцвярджэнне ў гэтым разнастайным свеце, народу неабходна мець адпаведнае самапачуванне, а менавіта — адчуванне сябе адзіным і поўным гаспадаром на сваёй зямлі, у сваёй уласнай краіне, неабходна мець — ні многа ні мала — зусім ясную і непахіснатрывалую нацыянальную самасвядомасць. Некалі вялікі Янка Купала, чалавечна даверлівы, як і ўсе паэты, нават і вялікія, паспешліва абвясціў: «А мы самі сабе, самі ўжо гаспадары». Каб стаць сапраўднымі гаспадарамі і забяспечыць сабе нармальнае чалавечае жыццё, патрэбна перш за ўсё глыбока ўсвядоміць, што мы — гэта мы,— народ са сваім уласным аблічам і ўласнай, жывой і несмяротнай, душою, і таму ў нас ёсць прыроднае, Богам дадзенае права на ўласны лёс, на незалежнае дзяржаўнае існаванне. Ідэя ўласнай дзяржаўнасці з векавечнай мары нашай павінна ператварыцца, нарэшце, у гістарычную рэальнасць, і дасягнем мы гэтага толькі пры адной умове — калі на нашай зямлі запануе яе ўласны прыродны голас, калі ва ўсім, што ёсць наша жыццё, наш грамадскі і сямейны быт, будзе праступаць, выяўляцца і свяціцца сваім непаўторным святлом Беларусь.

Беларусь, Беларусь!.. Калі ж мы ўсе, хто жыве пад яе высокім небам, зразумеем: без беларускага слова Беларусі няма і не можа быць. Без беларускага — удакладняю і падкрэсліваю — дзяржаўнага слова. Дзяржаўнага і яшчэ раз дзяржаўнага!.. За доўгія стагоддзі мы прывыклі, што нашай мове адводзілася зусім іншая роля— роля, якая асуджала яе на паступовае адміранне і пагібель. Небяспека гэтай яе смерці, а значыць, і смерці самой беларускай нацыі, не адпадзе ні сёння, ні заўтра, калі яна, наша мова, не стане ў поўным сэнсе слова дзяржаўнай, такой, як руская ў Расіі, польская ў Польшчы, французская ў Францыі, балгарская ў Балгарыі і г.д.—аж да апошняй прызнанай светам дзяржавы; калі яна не запануе літаральна ва ўсіх сферах жыцця нашага народа, не будзе — свабодна і натуральна — гучаць паўсюдна і скрозь.

На вялікі жаль, я нават сказаў бы — на вельмі вялікі жаль, гэтай ісціны ніяк не хочуць зразумець многія і многія дзяржаўныя мужы нашы — і ў Вярхоўным Савеце Беларусі, у тым ліку — у яго прэзідыуме, і ва Урадзе рэспублікі, і ў абласных, гарадскіх і раённых органах дзяржаўнага кіравання. Разуменне, спрыянне і садзейнічанне беларусізацыі Беларусі мала, а неразуменне, пярэчанне і перашкод, каб не сказаць адкрытага сабатажу,— многа. Вельмі многа! На кожным кроку бачым і сутыкаемся з гэтым. Таксама, як і дзяржаўнікі, не праніkліся ідэяй адраджэння беларускай мовы, разуменнем яе ролі на сучасным этапе дзяржаўнага будавання Беларусі і многія грамадскія дзеячы, прадстаўнікі палітычных арганізацый і партый, гэтаксама як і існуючых на Беларусі рэлігійных канфесій.

Але што хацець ад дзяржаўнікаў і палітыкаў, калі нават многія людзі з ліку творчай, мастацкай інтэлігенцыі, нават тыя, што з беларускага слова хлеб ядуць, не спяшаюцца павярнуцца душой і сэрцам да гэтага слова, паказаць прыклад карыстання ім, павагі да яго.

Усё гэта вельмі сумна і горка ўсведамляць, але хацеў бы спадзявацца, што ўсе гэтыя процістаянні справядлівасці будуць пераадолены. Як пісаў некалі Ул. Дубоўка: «У перашкодах дух расце!»

Ці ажыццяўляецца наш, прыняты з такімі цяжкасцямі, Закон аб мовах — хоць трохі? Менавіта — толькі хоць трохі, і толькі ў пэўных сферах. Дзякуючы падтрымцы асобных патрыятычна настроеных мужоў дзяржаўных і дзейнасці пэўных грамадскіх арганізацый, у тым ліку, а можа быць і перш за ўсё, нашага Таварыства, яго найбольш самаахвярных сяброў, якіх нямала.

Такім чынам, задача задач — забяспечыць беларускай мове ў Беларусі сапраўднае дзяржаўнае становішча. Як, якім чынам гэта зрабіць хутчэй і лепш — давайце вось і пагаворым, давайце і выкажам свае меркаванні, прапановы, крытычныя і самакрытычныя заўвагі. І не трэба бянтэжыцца, што мы сабраліся ў такі незвычайны час, што мы будзем гаварыць пра мову — пра вечны хлеб для душы тады, калі ўсе сумленныя людзі страшэнна заклапочаны тым, ці будзе ў іх ужо літаральна заўтра хлеб надзённы, ці будзе чым пакарміць і ў што адзець дзяцей і сябе. Можа, якраз у гэтым і ёсць сіла і веліч духу народнага, і вымовістае сведчанне нашай прыроднай жыццяздольнасці. Будзем верыць, што менавіта так і ёсць.

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



**Міхась ДЗЯМЧУК,**
*намеснік Старшыні Савета Міністраў*

# Асветніцтва — дзяржаўная палітыка

Шаноўная грамада! Шаноўныя калегі, сябры! Дазвольце мне ад імя Урада Рэспублікі Беларусь шчыра павіншаваць усіх удзельнікаў форуму са святам беларускасці, падзякаваць Вам, і ў Вашай асобе — Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны, нашым творчым Саюзам, іншым нацыянальным аб'яднанням за высакародную дзейнасць на карысць вялікай справы нацыянальнага Адраджэння, фарміравання нацыянальнай свядомасці нашага народа, новых пакаленняў беларусаў.

Сёння наша дзейнасць прыпадае на той час, калі Беларусь інтэгрыруецца ў міжнародную прастору, калі наша суверэннасць атрымлівае афіцыйнае прызнанне ўсё новых і новых краін свету. Амаль што зніклі заканадаўчыя, адміністрацыйныя і іншыя перашкоды на шляху беларусізацыі. У гэтых прынцыпова новых і спрыяльных для нас рэаліях ёсць усе падставы зрабіць дзейнасць нашых аб'яднанняў, рухаў, суполак больш моцнай і, калі так можна сказаць, больш дзяржаўна-арыентаванай.

Карацей кажучы, на гэтым этапе створана пэўнае рэчышча, якое патрэбна напоўніць і новым зместам і новым жыццёвым рухам нацыянальнага Адраджэння.

Цяпер нам трэба выходзіць на якасна новы — асветніцкі ўзровень вырашэння спраў. Так, як гэта было ўжо раней і неаднойчы. Калі звярнуцца да нашай гісторыі, мы зможам убачыць, што кожны імпэт адраджэння быў вынікам менавіта асветніцтва нашых слаўтых землякоў, што ўся дзейнасць нашых светачаў: Скарыны, Гусоўскага, Буднага і многіх іншых — была асветніцкай у самым шырокім і поўным сэнсе гэтага слова.

Адраджэнскае асветніцтва — справа не простая. Асабліва сёння, калі мы вельмі далёка адышлі ад сваіх каранёў, калі нам вельмі цяжка ўспомніць і асэнсаваць свае вытокі.

Таму зараз, на дадзеным этапе Адраджэння, няма асаблівых супярэчнасцей паміж дэмакратычным па сваёй сутнасці асветніцтвам і больш жорсткай, больш рацыянальнай палітыкай у гэтай справе. Асветніцтва і дзяржаўная палітыка — два бакі аднаго медаля.

Як я ўжо сказаў, адраджаючы (па сутнасці) стыхійна нашу мову, культуру, мы здолелі стварыць больш-менш заканадаўчую базу Адраджэння, а гэта значыць — створаны больш жорсткі рэгламент адраджэнскага працэсу. І я думаю, гэта галоўны вынік першага этапу Адраджэння.

Наперадзе — больш складаны этап, бо на гэтым этапе мы павінны свядома адказаць на галоўныя нашы пытанні: з чым мы ідзём у сусветную цывілізаваную супольнасць, у сусветную культуру, больш свядома вызначыцца ў тым, што мы імкнёмся адрадзіць у сваёй гісторыі.

Такая пастаноўка пытання дыктуе нам той пералік праблем, вырашэнне якіх мы павінны ўзняць на дзяржаўны ўзровень, менавіта на дзяржаўны ўзровень!

Праблема першая. Нам трэба перайсці ад факультатыўнай працы над кнігамі, падручнікамі па гісторыі нашага народа, геаграфіі нашага краю да стварэння добра акрэсленых дзяржаўных і грамадска-дзяржаўных структур з моцным бюджэтным фінансаваннем, моцным нацыянальным складам навукоўцаў і практыкаў.

Такі падыход дыктуе нам карэнную рэарганізацыю перш за ўсё грамадазнаўчых і гуманітарных накірункаў у рабоце нашай Акадэміі навук, вышэйшай школы і асабліва нашых універсітэтаў.

Такую працу мы ўжо распачалі. Значна павялічана фінансаванне нацыянальнай тэматыкі. Гэта і дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы, гэта і ўвядзенне ў жыццё адпаведных заканадаўчых актаў, гэта і мэтавыя датацыі з боку дзяржавы на беларускае кнігавыданне. Усё гэта сотні і сотні мільёнаў рублёў народных сродкаў, але ўсё гэта апраўдана.

Хачу асабліва падкрэсліць тую думку, што лепш не фінансаваць слабыя, шэрыя працы, даследаванні, якія ў прынцыпе не могуць паўплываць на справу Адраджэння, на нацыянальную свядомасць. На жаль, сярод дзесяткаў прафінансаваных манаграфій, даследаванняў па нацыянальнай тэматыцы можна назваць толькі некалькі, што могуць стаць нейкай асновай для падручнікаў у школах і ВНУ, прыўнесці штосьці каштоўнае ў філасофію нацыянальнага Адраджэння. Тое ж самае тычыцца працы нашых творцаў: празаікаў, драматургаў, паэтаў, мастакоў.

Не хачу абагульняць, але менавіта ў гэтым перш за ўсё адлюстроўваецца інтэлект нацыі і ад гэтага залежыць тое, як нас успрымае і будзе ўспрымаць сусветнае інтэлектуальнае супольніцтва.

Шаноўныя спадары! Менавіта працэс вяртання да нашых гістарычных каранёў, асэнсавання аб'ектыўнай гісторыі нашага народа павінен перайсці ў глыбокую філасофію нацыянальнага Адраджэння.

Гэта вельмі аб'ёмны тэзіс. Тут знойдуць сябе многія пакаленні нашых навукоўцаў, гісторыкаў, асветнікаў.

Але зараз філасофская аксіёма нацыянальнага Адраджэння складаецца з таго, што толькі паўнацэнная нацыя можа цвёрда, паслядоўна ісці па шляху цывілізацыі, можа ствараць эканамічна моцную суверэнную дзяржаву. І тыя працэсы, якія адбываюцца пасля развалу былога Саюза, яскравае таму пацвярджэнне.

Таму пераходжу да другой праблемы. Нам трэба ў ходзе адраджэнскай перабудовы, якая, на жаль, прыспела на эканамічны крызіс, не толькі не згубіць тыя парасткі нацыянальнага Адраджэння, якія мы маем на сённяшні дзень, а значна іх узмацніць.

Я б хацеў, не паўтараючыся, пачаць з вызначэння асноўных набыткаў у сферы адукацыі і асноўных праблем, якія там узнікаюць. Бо менавіта сфера адукацыі ёсць і будзе асноўнай крыніцай і асноўным стрыжнем Адраджэння.

Толькі за апошні год Міністэрствам адукацыі пры падтрымцы Урада і сумесна з Таварыствам беларускай мовы шмат зроблена па ўдасканаленні структуры навучальных устаноў у адпаведнасці з праграмай рэалізацыі Закона аб мовах і нацыянальным складам насельніцтва рэспублікі.

Значна змяніўся баланс школ па мовах навучання. Калі яшчэ тры гады назад ухіл быў у бок рускамоўных школ, то ўжо сёлета амаль 65 працэнтаў з'яўляюцца школамі з беларускай мовай навучання, і яшчэ 17 працэнтаў распачынаюць працэс пераходу на беларускую мову.

Павялічаны на 1,8 мільёна экземпляраў тыраж беларускамоўных падручнікаў і дапаможнікаў для першых класаў і амаль у тры разы — колькасць беларускамоўных падручнікаў для пачатковай школы, дзе і закладаецца падмурак валодання роднай мовай.

Зусім нядаўна падрыхтавана дзяржаўная праграма дашкольнага нацыянальнага выхавання. Трэба сказаць, што і тут ёсць пэўныя зрухі. Ужо сёлета ў дзіцячых садках (цалкам беларускамоўных ці з беларускамоўнымі групамі) выхоўваецца ў два разы больш дзетак, чым у мінулым годзе.

Уведзены і замацоўваецца ўступны экзамен па беларускай мове ва ўсіх сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. У педінстытутах і педвучылішчах уведзен дзяржаўны экзамен па беларускай мове. Ва універсітэтах і шэрагу ВНУ па гуманітарных цыклах створаны беларускамоўныя аддзяленні ці выкладаюцца адпаведныя прадметы на беларускай мове.

Улічваючы, што мы за апошнія 20 гадоў згубілі праз урбанізацыю амаль 2 мільёны вясковых вучняў, нам цяпер патрэбна ва ўсіх рэгіёнах ствараць беларускія гуманітарныя ліцэі (лепш з інтэрнатамі). І такія крокі ўжо робяцца.

Прыняты захады па карэнным паляпшэнні забеспячэння навучальных устаноў педагагічнымі кадрамі. Працэс гэты нялёгкі, паступовы. Мы амаль кожны год павялічваем колькасць прыёму будучых настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, прычым ідзём і на такія крокі, як сумяшчэнне прадметнай падрыхтоўкі: беларуская — замежная мовы, беларуская — руская мовы.

Знайшла дзяржава і дадатковыя сродкі, каб на 10 працэнтаў павялічыць заробак настаўнікаў-беларусістаў. Тут якраз той выпадак, калі дзяржаўна-валявое вырашэнне пытання было апраўдана і прынята з паразуменнем грамадой і выкладчыкамі.

Усё наша асветніцтва, нашы нацыянальныя адукацыйныя намаганні пачынаюцца з букваря — першай галоўнай кніжкі чалавека.

Мы ўпершыню абвясцілі адкрыты рэспубліканскі конкурс на беларускі нацыянальны буквар, па сутнасці народны буквар, які б быў пазбаўлены палітычных і ідэалагічных догм і штампаў.

Каб зрабіць такі буквар сапраўды народным, нацыянальным, патрэбна, каб у яго стварэнні прынялі ўдзел не толькі навукоўцы, практыкі, але (і гэта вельмі важна) творцы, пісьменнікі, усе сябры Таварыства беларускай мовы, удзельнікі іншых нацыянальных аб'яднанняў.

У перспектыве з развіццём адраджэнскіх працэсаў на стрыжань гэтай справы павінна выходзіць наша вышэйшая школа, асабліва нацыянальныя універсітэты, гімназіі, ліцэі, каледжы. Гэта, канешне, не значыць, што мы павінны з гэтага працэсу выключыць тэхнічныя навучальныя ўстановы. Толькі праз шырокую і моцную гуманітарызацыю ўсёй адукацыі мы здолеем закласці ў яе добры нацыянальны імпэт. Таму можна толькі ўхваліць крокі Мінадукацыі, якое прыняло рашэнне ўвесці з 1992/1993 навучальнага года ва ўсіх ВНУ тэхнічнага профілю новы вучэбны курс — «Беларуская нацыянальная культура».

Трэба адзначыць, што сёння нашы практычныя зрухі, нашы прыкметныя крокі на шляху нацыянальнага Адраджэння маюць месца там, дзе ўдаецца ўключыць у адраджэнскую справу падрастаючае пакаленне, спалучыць сталы вопыт, веды і духоўнасць дарослага з прыродным імкненнем дзіцяці да нацыянальнага.

У гэтым сэнсе мы вялікія надзеі ўскладаем на Беларускі нацыянальны ліцэй, штогадовую міжнародную летнюю школу па праблемах беларускай мовы і культуры. Нам патрэбна мець значна больш такіх вось сапраўдных цэнтраў асветніцтва і духоўнай культуры.

Працяг нашай гаворкі — аб праблемах культуры ў больш вузкім сэнсе слова, якая фарміруе і адраджэнскі светапогляд і нацыянальную духоўнасць.

Беларусь паступова пазбаўляецца статуса культурнай правінцыі і набывае аўтарытэт еўрапейскага культурнага цэнтра. У нашых музычных і тэатральных фестывалях жадаюць удзельнічаць вядомыя замежныя творчыя калектывы. Практычна штодзень у краінах Еўропы, Амерыкі гастралююць многія пасланцы прафесійнай і самадзейнай творчасці нашай рэспублікі.

За мінулы час створаны 6 новых нацыянальных тэатральных калектываў за кошт сродкаў дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў. З 18 да 24 працэнтаў павялічыўся аб'ём беларускай літаратуры ў бібліятэках рэспублікі.

Пашырылася сетка ўстаноў фальклорнага і гісторыка-этнаграфічнага накірунку. Дастаткова назваць музей М. Багдановіча, Мёрскі гісторыка-этнаграфічны музей, Аршанскі музей этнаграфіі і льну, Музей кнігадрукавання ў Полацку. Амаль у 5 разоў узрасла колькасць этнаграфічных куткоў у школах.

Шырока практыкуецца ў рэспубліцы правядзенне разнастайных культурна-масавых мерапрыемстваў, якія маюць нацыянальны каларыт. Вялікай падзеяй у жыцці рэспублікі і за яе межамі стала святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

Але якасны змест сённяшняга этапу беларусізацыі патрабуе больш радыкальнага падыходу да падрыхтоўкі кадраў культуры — прафесіяналаў еўрапейскага ўзроўню, сапраўдных асветнікаў, прапагандыстаў нацыянальнай культуры.

Трэба на справе ператварыць кожную буйную ўстанову культуры ў народны нацыянальны цэнтр культуры, трэба на справе інтэграваць культуру з навукай, адукацыяй, вытворчасцю і не разглядаць яе як нейкае аўтаномнае рэчышча, трэба данесці нацыянальную культуру да кожнай беларускай сям'і, бо менавіта тут у першую чаргу культурныя парасткі ўзыходзяць, але часцей так і не ўздымаюцца вышэй асэнсавання чарговага лацінаамерыканскага тэлесерыяла.

Нацыянальнае Адраджэнне можа ажыццяўляцца ў поўнай інфармацыйнай прасторы. На жаль, наша інфармацыйная прастора не адпавядае такому прызначэнню.

Так, мы сёння павялічылі на беларускім тэлебачанні, радыё колькасць беларускамоўных перадач. Але ці тут у колькасці справа? Нам сёння патрэбны жывы эфір, сумленны дыялог са слухачом, гледачом. Канешне, тут трэба праявіць творчую думку, знайсці новы змест, новыя падыходы. Гэта цяжка. Але гэта тое, што мы называем прафесіяналізмам у любой справе, у тым ліку і ў справе нацыянальнага Адраджэння. Патрэбны прафесіяналы, асабліва сёння, калі адчуваецца істотная канкурэнцыя з боку Астанкінскага і Расійскага тэлебачання.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## *дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь»*

Сёння ва ўмовах рынку і бюджэтнага дэфіцыту нам вельмі цяжка знаходзіць усё новыя і новыя сродкі на падтрымку і развіццё сферы інфармацыі. Бюджэтнага фінансавання не хапае. Думаю, у гэтай справе нам дапаможа істотнае змяненне падатковай палітыкі ў адносінах да сродкаў масавай інфармацыі, беларускага кнігавыдання, творчых саюзаў, нацыянальных грамадскіх аб'яднанняў. Такія прапановы Урадам унесены ў парламент рэспублікі.

Мы добра разумеем, што без моцнай якаснай інфармацыйнай базы нам цяжка будзе рухаць справу нацыянальнага Адраджэння. Таму сёння мы робім усё неабходнае, каб інфармацыйная прастора адпавядала справе Адраджэння.

Шаноўныя сябры, калегі! Сёння, на новым адраджэнскім этапе патрэбна знайсці новыя формы працы, каб родная мова пайшла ў сям'ю, працоўны калектыў. Тут справа агульная: ад дзіцячага садка да Акадэміі навук. Хачу асабліва падкрэсліць, што нам трэба добра асэнсаваць як адзінае цэлае асветніцка-культурны, навукова-адукацыйны, інфармацыйны ды і проста агульначалавечы аспекты нашага нацыянальнага Адраджэння, знайсці на гэтай падставе магчымасці згуртаваць усе нашы нацыянальныя аб'яднанні і дзейнічаць як вялікая моцная адзінка. Нам патрэбна выпрацоўваць адзіныя падыходы і адзіную праграму дзеянняў па ўсіх пытаннях нацыянальнага Адраджэння, адзіным фронтам змагацца за ажыццяўленне задуманага.

Адраджэнне — гэта інтэграваны працэс. Трэба з павагай ставіцца да ўсіх нацыянальнасцей, спрыяць іх культурна-асветніцкай дзейнасці. Але трэба добра памятаць і аб тым, дзеля каго і чаго мы адраджаем нашу спадчыну, закладваем падмурак для новых пакаленняў беларускай нацыі.

Сёння мы павінны больш увагі аддаваць згуртаванням беларусаў у краінах былога Саюза, усяго свету. Спрабуем дапамагаць суполцы ў Вільні ў арганізацыі этнаграфічнага музея і гімназіі. Дапамагаем у выдзяленні памяшкання для арганізацыі беларускага нацыянальна-культурнага цэнтра ў Маскве, дзе сёння пражывае больш за 100 тысяч беларусаў. Падтрымліваем сувязі і аказваем дапамогу аб'яднанню «Беларусы» ў Казахстане. Асобная праблема — беларусы ў Польшчы.

Мы павінны добра разумець, што стварэнне сусветнай супольнасці беларусаў — справа вялікага палітычнага і нацыянальна-адраджэнскага значэння, якая не можа вырашацца толькі на грамадскіх пачатках. Думаю, патрэбна добра акрэсленая дзяржаўная палітыка.

Шаноўныя спадары! Вырашэнне ўзнятых пытанняў і многіх другіх, якія будуць закрануты ў выступленнях, дыскусіях, магчыма толькі праз нашы сумесныя намаганні, праз сапраўднае падзвіжніцтва заступнікаў беларускага слова, нацыянальнай культуры.

Таму я хачу пажадаць Таварыству далейшых поспехаў у нашай агульнай і высакароднай справе — справе Адраджэння нацыі.

*Леанід ЛЫЧ,*

***доктар гістарычных навук, член Рэспубліканскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны***

# Дзяржава і мова. Мова і дзяржава



***«...Нам у першую чараду трэба адрадзіць сваю мову. Толькі тады ў нас будзе якоесь асобнае нацыянальнае жыццё, бо асобная мова — гэта і ёсць форма нацыянальнай асобнасці. Толькі адрадзіўшы мову, мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух».***

***Сяргей ПАЛУЯН***

Словы, узятыя мною ў якасці эпіграфа, Сяргей Палуян выказаў у свае няпоўныя дваццаць гадоў. Колькі ў іх праўды! Нават і сёння яны захоўваюць сваю жыццёвасць, хаця ўзрост іх перасягнуў за восемдзесят гадоў. Аж страшна становіцца, што за столькі часу мы так і не змаглі выканаць разумны запавет свайго слыннага сына. І не выканалі, хутчэй за ўсё, таму, што да гэтай архіскладанай праблемы ўсур'ёз яшчэ не падключалася дзяржава, калі не лічыць кароткатэрміновай палітыкі беларусізацыі дваццатых гадоў. Тады з культурна-моўным адраджэннем беларускага народа ўсё ішло даволі паспяхова, і каб не надуманая барацьба з нацыянал-дэмакратамі ды рэпрэсіі 30-х гадоў, цяперашняй суверэннай Рэспубліцы Беларусь мала што заставалася б рабіць па ажыццяўленні светлай мары такіх людзей, як Сяргей Палуян. На вялікі жаль, такога не адбылося. Сучаснай беларускай дзяржаве давядзецца ўзяцца за адраджэнне сваёй дзяржаўнай мовы ў неверагодна цяжкіх, перш за ўсё эканамічных, умовах. Але ж усё-такі не з нулявога цыкла, бо яшчэ да абвяшчэння нацыянальнага суверэнітэту Беларусі дэпутаты папярэдняга склікання Вярхоўнага Савета БССР прынялі прагрэсіўны на той час Закон аб мовах у Беларускай ССР, згодна з якім беларускай мове ў якасці адзінай у рэспубліцы нададзены статус дзяржаўнай.

З гэтага часу на дзяржаву ўскладаецца асноўны цяжар яго рэальнага забеспячэння, бо само па сабе становішча не паляншаецца. Сёе-тое робіцца ў гэтым напрамку па лініі дзяржаўных органаў, міністэрстваў і ведамстваў, кіраўнікоў паасобных прадпрыемстваў і ўстаноў, але яно выклікае ў грамадстве неадназначную рэакцыю. Адным здаецца, што беларуская мова занадта марудна ўзбіраецца на дзяржаўны п'едэстал (на такіх пазіцыях і аўтар гэтага артыкула), другія, для каго яна не з'яўляецца роднай, лічаць, што недапушчальна звужэнне сацыяльных функцый рускай мовы. Гэтыя супярэчлівыя погляды на моўную сітуацыю ў рэспубліцы лёгка зразумець, але куды цяжэй апраўдаць. Вядома, усім шчырым руплівым беларускай мовы хочацца хутчэй убачыць яе ў сваёй роднай хатцы гаспадыняй, а не наймічкай. Зрабіць жа такое не проста, бо яна ж больш за паўстагоддзе не выконвала функцый дзяржаўнай мовы. Гэтаму трэба вучыцца, і не ў малой ступені ад рускай мовы, якая назапасіла такі багаты вопыт гаспадарання ў беларускім доме. Дапамагло ёй у гэтым, як мы раней любілі пісаць, паслядоўнае ажыццяўленне партыйнымі і савецкімі органамі рэспублікі нацыянальнай палітыкі КПСС. Партыйных органаў цяпер няма, таму курс — і, вядома ж, не ленінскі — трэба ажыццяўляць толькі дзяржаве ў апоры на адпаведныя структуры, грамадскасць. Калі кожны ў межах сваёй кампетэнцыі ўсур'ёз паклапоціцца аб фактычным набыцці беларускай мовай статуса дзяржаўнай, не будзе падстаў наракаць за таптанне на адным месцы.

А цяпер хацелася б паразважаць пра сапраўдны сённяшні стан рускай мовы на Беларусі. Яна па-ранейшаму пануе на гістарычнай тэрыторыі беларусаў. На планеце Зямля няма ніводнай унітарнай дзяржавы (а Рэспубліка Беларусь менавіта з'яўляецца такой), дзе б чужая мова мела такую перавагу над роднай мовай карэннага насельніцтва. Хтосьці можа спаслацца на краіны Лацінскай Амерыкі, дзе пануюць не мясцовыя мовы, а мовы былых іспанскіх і партугальскіх канкістадораў (заваёўнікаў). Згодзен, але ж мы, у адрозненне ад мясцовых народаў Лацінскай Амерыкі, нікім не заваяваны, мы, у адрозненне ад іх, жывём не на перыферыі нацыянальнай дзяржавы ці ў рэзервацыях, а з'яўляемся дзяржаўнай нацыяй, складаем амаль 4/5 агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі, таму проста не маем маральнага права пакідаць родную мову на задворках, не баючыся абмежаваць сацыяльныя функцыі рускай мовы. Такое абмежаванне — проста гістарычная непазбежнасць, і дзяржава павінна свядома ісці на падобны крок, ведаючы, што гэтым самым яна садзейнічае культурнаму развіццю народа, імя якога яна носіць у сваёй афіцыйнай назве. Перакананы, што нават пры самым рашучым і смелым расчышчэнні завалаў, што ўзведзены на шляху беларускай мовы да рэальнага дзяржаўнага статуса, уплыў рускай мовы на Беларусі захаваецца, яго адчуюць і тыя, каго маці сёння люляе ў калысцы. Перадаць жа ўсе дзяржаўныя функцыі беларускай, — да чаго абавязвае ўтварэнне суверэннай Рэспублікі Беларусь, — справа не менш як аднаго дзесяцігоддзя. Паколькі такі працэс у нас адбываецца не рыўкамі, а запаволенымі тэмпамі, лічу, што рускамоўнае насельніцтва пастулова адаптуецца да іншай моўнай сітуацыі і не адважыцца пайсці на лінгвістычныя забастоўкі, тым больш што ва ўсіх гэтых пераменах гістарычная праўда на баку беларускай мовы. І, нарэшце, рускамоўнаму насельніцтву, сярод якога пераважаюць самі беларусы, давядзецца засвойваць не замежную, а блізкароднасную мову. Словам, псіхалагічны фактар у нас спрыяльны, каб больш рашуча і паслядоўна праводзіць моўную палітыку на дзяржаўным узроўні.

Апошнім часам у нашым нацыянальна-дзяржаўным развіцці адбыліся якасныя змены, у выніку чаго ўзнікла неабходнасць удакладніць той артыкул Закона аб мовах, дзе руская мова вызначана як сродак міжнацыянальных зносін. Такое неяк яшчэ дапушчалася, калі ў нас існаваў СССР. З яго распадам і абвяшчэннем Беларусі суверэннай дзяржавай яе нацыянальная мова павінна стаць і мовай міжнацыянальных зносін у межах усёй нашай Бацькаўшчыны. Пры вырашэнні гэтага пытання трэба браць за прыклад Расію, Польшчу, Германію, Францыю, Венгрыю, Балгарыю і іншыя краіны з іх багатай практыкай рэгулявання моўных працэсаў на самым высокім дзяржаўным узроўні. Толькі ў зносінах з Расіяй Беларусі мэтазгодна выкарыстоўваць рускую мову. Службовую ж перапіску з Украінай, калі апошняя будзе слаць нам дакументы на сваёй мове, напэўна, лагічней будзе весці на беларускай, каб не закранаць нацыянальных пачуццяў яе мільённых носьбітаў. Што да астатніх краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў, а таксама рэспублік Прыбалтыкі, Грузіі, то, мабыць, давядзецца яшчэ нейкі час выкарыстоўваць рускую мову ў якасці сродку міжнародных зносін. Пазней імі стануць нацыянальныя мовы, як гэта практыкуецца ўсімі цывілізаванымі краінамі свету.

Калі грамадства бярэцца за вырашэнне якой-небудзь важнай праблемы, то актуальнай становіцца задача правільнага выбару галоўнага звяна, ад стану спраў у якім залежыць калі не ўсё, дык вельмі многае. Трэба аддаць належнае тым, хто стаяў ля стырна камандна-бюракратычнай сістэмы на Беларусі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе: яны не прынялі ніводнага нарматыўнага акта з мэтай паступовага ўзвядзення на тэрыторыі Беларусі рускай мовы ў ранг дзяржаўнай, затое зрабілі яе адзінай рабочай у сваім службовым справаводстве, добра ведаючы, што з цягам часу гэта прымусіць усе ячэйкі грамадства, агульнаадукацыйную сярэднюю і вышэйшую школы пайсці на абмежаванне сацыяльных функцый беларускай мовы. Цяпер мы імкнёмся да пабудовы заснаванай на дэмакратычных прынцыпах дзяржавы з надзяленнем вялікімі правамі ўсіх яе сярэдніх і нізавых структур. Таму спадзявацца, як гэта было ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі, што беларускамоўную практыку рэспубліканскіх органаў улады неадкладна пачнуць капіраваць падначаленыя ім абласныя, раённыя і гарадскія структуры, няма вялікай падставы.

Хоць і важна перавесці службовае справаводства рэспубліканскіх органаў улады на беларускую мову, усё ж не гэта галоўнае звяно ў яе адраджэнні. Такім сёння з'яўляецца народная адукацыя. Рабіць галоўны ўпор на народную адукацыю мы павінны, зыходзячы не толькі з сусветнага, але і свайго ўласнага вопыту. Менавіта агульнаадукацыйныя школы, тэхнікумы і інстытуты «дапамаглі» мільёнам беларусаў адрачыся ад матчынага слова, апынуцца ў гістарычным беспамяцтве і добра такі ўзгадавацца ў рускай культурна-моўнай стыхіі. Цяпер прабіў час павярнуць дзейнасць навучальных устаноў на 180°. Паколькі ўсе яны ўваходзяць у дзяржаўную сістэму народнай асветы, значыцца, не якіясьці актывісты ці бацькі навучэнцаў павінны вызначыць мову адукацыі, а толькі сама дзяржава, калі яна жадае вывесці свой так моцна асіміляваны народ на шлях самабытнага нацыянальна-культурнага развіцця.

Пры ўсіх пазітыўных зрухах у сучаснай беларусізацыі народнай асветы мы далёка не поўнасцю выкарыстоўваем наяўныя магчымасці і рэзервы. Асабліва гэта датычыць сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школы. Я лічу, што ўжо ў наступным навучальным годзе ўсе першыя курсы павінны быць беларускамоўнымі. Калі ж нам не ўдасца набраць патрэбнай колькасці абітурыентаў, якія добра валодаюць беларускай мовай, варта для астатніх адвесці ўвесь першы семестр на яе вывучэнне. Гэта будзе нагадваць нам ранейшы падыход да арганізацыі працы з замежнымі студэнтамі ў ВНУ. Для абітурыентаў, якія добра валодаюць мовай, на працягу першага семестра могуць арганізоўвацца розныя спецкурсы па беларусазнаўству. Усё гэта некалі з лішкам акупіцца ў практычнай дзейнасці маладых спецыялістаў. Нельга далей адцягваць перавод тэхнікумаў і інстытутаў на беларускую мову беспадстаўнымі спасылкамі, што ў нас вельмі мала на ёй падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Выкладчыкі пры падрыхтоўцы да заняткаў могуць карыстацца рускамоўнай літаратурай — гэта не стане перашкодай для таго, каб здабытыя веды перадаць затым па-беларуску.

Калі народная асвета на сёння з'яўляецца звяном нумар адзін усёй нашай беларусізацыі, дык галоўным праваднікам гэтай ідэі ў жыццё ў першую чаргу павінна быць навуковая, творчая і педагагічная інтэлігенцыя, дапамагаць якой абавязаны дзяржаўныя выканаўчыя органы ўсіх рангаў. Адвядзенне такой ролі інтэлігенцыі тлумачыцца яе месцам у духоўным жыцці народа, глыбокім разуменнем заканамернасцей нацыянальна-культурнага развіцця. Вядомы тэарэтык германскай сацыял-дэмакратычнай партыі Карл Каўцкі пісаў, што ніхто «не прагне так палка велічы ўласнай нацыі, як інтэлігент, асабліва калі ён належыць да маленькай нацыі». На жаль, гэтага нельга сказаць пра нашу інтэлігенцыю.

Не сакрэт, што апошнім часам у нас вельмі адчувальна панізіўся ў вачах народа прэстыж самых элітарных пластоў навукоўцаў-грамадазнаўцаў і творчай інтэлігенцыі, якія некалі з усёй заўзятасцю, «плённа» працавалі на карысць савецкай палітыкі зліцця культур і моў народаў СССР і атрымалі за гэта высокія ўрадавыя ўзнагароды, званні народных, заслужаных. Такая прывілеяваная катэгорыя інтэлігенцыі папаўнялася колькасна з нагоды якога-небудзь важнага савецкага юбілею. І што характэрна: з абуджэннем беларускага нацыянальнага адраджэнскага руху ў перыяд гарбачоўскай перабудовы толькі мізэрная доля «народнай», «заслужанай» інтэлігенцыі далучылася на справе да яго. Затое куды большая частка элітарнай інтэлігенцыі шкодзіла і шкодзіць Адраджэнню, усё яшчэ непахісна стоячы на пазіцыях брэжнеўска-суслаўскага курсу на інтэрнацыяналізацыю духоўнага жыцця. Было б недэмакратычна і антыгуманна з боку дзяржавы забараняць гэтым людзям прытрымлівацца такіх поглядаў, але не менш недэмакратычным і антыгуманным было б дазваляць ім свядома ўплываць на масы, асабліва на моладзь, з мэтай адрыву яе ад удзелу ў нацыянальна-культурным Адраджэнні беларускага народа. А такое праяўляецца ў нашых сродках масавай інфармацыі, у аўдыторях вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, у класах агульнаадукацыйных школ. Не раз даводзілася чуць па радыё, як на беларускую мову цэбрамі льюць памыі, і вядучы не лічыў патрэбным даць адпаведную крытыку такім выказванням. У выніку ў шматлікіх радыёслухачоў можа стварацца ўражанне, што нашы дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі падзяляюць такі пункт гледжання. Усё, што свядома ці несвядома накіравана на падрыў беларускай нацыянальнай ідэі, павінна быць забаронена на афіцыйным, дзяржаўным узроўні. Менавіта да гэтага абавязвае дасягнуты беларускім народам дзяржаўны суверэнітэт. У Польшчы, Францыі, Італіі і іншых краінах нікому ж не дазволена ганьбіць іх родныя мовы.

Дзяржава павінна ўсямерна клапаціцца аб тых, хто ўвесь свой талент, энергію і сілу аддае справе беларускага Адраджэння, якое з прычыны неспрыяльных аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў ажыццяўляецца вельмі марудна. Але ж, на наша вялікае шчасце, усё-такі ажыццяўляецца, і не так з ласкі дзяржаўных структур, колькі дзякуючы энтузіязму людзей, што захавалі нацыянальную самасвядомасць, хочуць выратаваць свой народ ад асіміляцыі. Дык чаму ж дзяржава не заўважае такіх людзей? Чаму да сённяшняга дня мы не прачыталі ў газетах, што дырэктару якогасьці прадпрыемства ці ўстановы прысвоілі званне заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь за тое, што ім у службовае справаводства ўведзена беларуская мова, шануецца і ўзбагачаецца нацыянальная духоўная спадчына? Вось бы нам тут набраць тэмпы і маштабы прысваення званняў народнага ці заслужанага, як гэта рабілася некалі за ўклад інтэлігенцыі ў размыванне нацыянальна-спецыфічнага патэнцыялу беларускай культуры!

А колькі ў нас сёння выкладчыкаў рускамоўных тэхнікумаў і інстытутаў, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, якія, пастаянна адчуваючы дакоры ці кпіны з боку калег па працы, ідуць да сваіх навучэнцаў з беларускай мовай, імкнуцца ў франтальна рускамоўным асяроддзі сфарміраваць з іх нацыянальна-свядомых беларусаў!

*(Заканчэнне на с. 4).*



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

***Рэспубліканская канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь»***

# Дзяржава і мова. Мова і дзяржава

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 3).*

Вялікай павагі заслугоўваюць — і перш за ўсё з боку дзяржавы — тыя нешматлікія носьбіты беларускага фальклору, якія цудам захаваліся і пад прэсам страшэннай шматгадовай асіміляцыі нашай культуры і мовы. Не ведаю, каго з прадстаўнікоў прафесійнага мастацтва можна паставіць побач з тымі, хто, не маючы адпаведнай адукацыі і пасады, заўзята вяртае народу, здавалася б, навекі забытыя нацыянальныя духоўныя здабыткі? Асабіста я атрымаў у дзесяткі разоў большае задавальненне ад выступленняў па радыё аматара беларускага фальклору Марыі Іванаўны Дулы з Лідчыны, чым ад адной з лютаўскіх тэлеперадач з удзелам самага «цвету» «заслужаных», «народных» прадстаўнікоў прафесійнага мастацтва, якія не знайшлі лепшага сродку выказаць сваю вялікую павагу да беларускай культуры, як звярнуцца да культуры на рускай мове. Не забываецца мною і радыёперадача леташняга ці пазалеташняга года з удзелам аднаго з вядомых артыстаў драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. Некалі ўрад Беларусі вылучыў гэтага артыста на атрыманне самага высокага ў былым Саюзе ганаровага звання «Народны артыст СССР». Здавалася б, працуючы ў тэатры, дзе рабочай мовай з'яўляецца беларуская, апошняя павінна была б стаць самай дарагой і блізкай для артыста. Не, такога не здарылася. Ён нават з нейкім прыўзнятым настроем і гонарам заявіў, што дома ў сям'і размаўляе толькі па-руску. Падумалася, вось адкуль тая суконная гаворка, той рускамоўны акцэнт, які і па сёння гучыць са сцэны нацыянальнага храма беларускай тэатральнай культуры. Усё гэта можна было зразумець і дараваць, калі мы стрымгалоў імчаліся да зліцця культур і моў. На шчасце, такую палітыку ўсе «савецкія» народы прызналі памылковай і заганнай, таму дзяржава павінна ўсур'ёз паклапаціцца аб узрастанні ролі сваіх тэатраў у справе выхавання ў гледача павагі да роднай культуры і мовы, далучэння яго да ўсіх багаццяў духоўнай спадчыны.

Не даводзілася чуць і чытаць, каб шчырых, сапраўдных руплівцаў беларускай культуры і мовы чымсьці адзначыла дзяржава. Дзесяціпрацэнтная надбаўка за выкладанне на беларускай мове — гэта мізэр. Шчырыя змагары за выратаванне беларускай нацыі заслугоўваюць больш высокай пашаны і, вядома ж, не толькі грашовай. Хочацца спадзявацца, што яны патрапяць у лік першых, каму, у адпаведнасці з прынятай у пачатку красавіка г.г. Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага Адраджэння будуць нададзены ганаровыя званні.

Дзяржава павінна паважліва ставіцца да рэдакцый беларускамоўных газет і часопісаў, якія вядуць суровы бой не столькі за ўласнае выжыванне, колькі за выратаванне ад рускамоўнай асіміляцыі сваіх чытачоў, бо калі ў іх не будзе магчымасці чытаць газету (а ў некаторых мясцінах гэта ледзь не адзіны сродак далучанасці да свайго друкаванага роднага слова) ці часопіс на беларускай мове, яны будуць карыстацца інфармацыяй на чужых мовах, забываючы сваю. Сусветная грамадскасць не абвінаваціць Рэспубліку Беларусь у шавінізме, калі яна ў час вострага дэфіцыту паперы пойдзе на часовае закрыццё ці абмежаванне тыражу рускамоўных выданняў (магчымы тут вакуум можа запоўніцца друкаванай прадукцыяй з Масквы ці Санкт-Пецярбурга) у імя таго, каб не звузіць сферу выкарыстання беларускага слова. На вялікі жаль, да апошняга часу перабоі з паперай больш за ўсё менавіта на ім адбіваюцца.

Практычна амаль зусім не бачна ролі дзяржаўнага кіравання такімі важнымі сродкамі масавай інфармацыі, як радыё і тэлебачанне. Па многіх параметрах яны ў часы застою куды больш працавалі на карысць беларускай справы, чым цяпер. Нагадаю, што тады ўзначальваў гэту культурна-асветную сферу выдатны руплівец беларускай нацыянальнай культуры і мовы Генадзь Бураўкін.

Часта думаю, мо цяпер на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні ён прынёс бы больш карысці для беларускай справы, чым недзе там далёка ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый?

Радыё і тэлебачанне — гэта сфера грамадскай дзейнасці, дзе вельмі многае залежыць ад пазіцыі аднаго альбо некалькіх кіраўнікоў. Калі ўдасца іх вядучыя структуры ўкамплектаваць нацыянальна свядомымі асобамі, тады на ўсім абсягу Бацькаўшчыны на поўную моц загучыць беларускае слова, якое цяпер нярэдка глушыцца нават у самых радыё і тэлестудыях. Часта вінаватыя ў гэтым і журналісты, калі ў час дыялогу з рускамоўнымі аўтарамі пераходзяць на рускую мову, што пакідае непрыемнае ўражанне.

Працуючы ў эфіры, журналісты не маюць права адмаўляцца ад беларускай мовы, бо гэта — велізарная знявага яе. Здзіўляе, што гэтай элементарнай ісціны не разумеюць самі беларусы, ахвотна згаджаючыся браць удзел у перадачы, не ведаючы роднай мовы. Не раз у падобных выпадках думалася: калі чалавек не ўмее плаваць, ён жа не лезе ў глыбокае месца, а калі і асмеліцца, дык толькі з выратавальным кругам. Можа, нам у такім разе адвесці спецыяльны час для змешанага беларуска-рускамоўнага эфіру, пакуль людзі не навучацца гаварыць па-беларуску? Нарэшце, павінны ж і ў нас, як і ва ўсіх нашых суседзяў, запрацаваць нацыянальныя, а не квазіінтэрнацыянальныя радыё і тэлебачанне. І добра было б, каб першымі паказалі прыклад удзельнікі папулярнай ранішняй перадачы «Радыёфакт». А то здараецца, што на працягу цэлай гадзіны беларуска-рускай мяшанкі не прагучыць ніводнай беларускай песні: пачнуць з заходнееўрапейскага меласу, а закончаць рускім, і бывай здароў карэнны беларус на сваёй роднай зямельцы.

Прабіў час мяняць акцэнты. І рабіць гэта павінна сама дзяржава, рост аўтарытэту якой прама прапарцыянальны развіццю не толькі яе эканамічных, але і культурных асноў.

Вострая патрэба існуе ў прасоўванні беларускага слова ў сферу навукі, што адразу станоўча паўплывае на яго прэстыж. Важную ролю тут адыграе стварэнне ў Рэспубліцы Беларусь свайго дзяржаўнага органа па прысуджэнні вучоных ступеней і званняў кандыдатаў і дактароў, дацэнтаў і прафесароў, што вызваліць нашых навукоўцаў ад абавязковага напісання дысертацый і неабходных да іх дакументаў на рускай мове. Зусім нелагічна, што ў суверэннай дзесяцімільённай рэспубліцы вучоныя званні і ступені зацвярджаюць не на месцы, а ў Вышэйшай Атэстацыйнай Камісіі Расіі. Такога не ведае нават двухмільённая Албанія.

Усведамленне важнасці ролі дзяржавы ў адраджэнні і развіцці нацыянальнай мовы паслужыла падставай для кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны разгледзець гэта пытанне на канферэнцыі: «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь». Добра было б, каб да ўдзелу ў працы канферэнцыі з усёй Беларусі з'ехалася як мага больш заклапочаных справай нацыянальнага Адраджэння прадстаўнікоў дзяржаўных органаў улады і кіравання, бо толькі з іх дапамогай актывістам ТБМ, усім шчырым змагарам за выжыванне беларускага слова ўдасца вывесці яго на шырокі прасцяг, зрабіць неўміручым.

# *Культура і мова — паняцці непарыўныя*

Культура і мова — паняцці непарыўныя. Хіба можна адраджаць нацыянальную культуру, калі занядбана нацыянальная мова? Ісціна, здаецца, простая, але не так проста мы да яе ўсе ішлі.

Ужо прайшло два гады, як Міністэрства культуры рэспублікі ў сваёй дзейнасці перайшло на беларускую мову, і сапраўды, гэта было не так лёгка зрабіць. Яшчэ і сёння многім з нас не хапае ведаў, моўнай практыкі, многія з нас, калі можна так сказаць, толькі «вучацца на беларусаў». Гэта можна было б прыняць за жарт, калі б у ім не было так многа сумнай праўды.

Разам з тым, нацыянальна-культурная палітыка, аб якой цвёрда заявіла міністэрства, паўплывала і на ўсе іншыя структуры нашай сістэмы. Ёсць на месцах падтрымка, разуменне, зацікаўленасць і ініцыятыва. Ёсць і рэцыдывы з боку прыхільнікаў тэорыі аб зліцці нацый і адміранні нацыянальных моў. Але, на шчасце, не яны вызначаюць сітуацыю.

Беларуская мова як падмурак нацыянальна-культурнага існавання разглядаецца і ўспрымаецца намі безальтэрнатыўна. Сутнасць канцэпцыі адраджэння нацыянальнай культуры, якую праводзіць міністэрства, супадае з ідэяй, выказанай Ніламам Гілевічам на XV з'ездзе Саюза пісьменнікаў: «Жыццё на Беларусі зрабіць беларускім... Трэба вярнуць яму нацыянальнае беларускае аблічча, стыль; жыццё перайначыць на наш адметны самастойны беларускі лад».

Не хацеў бы займацца справаздачай, але як тут не сказаць, што за апошнія два гады праведзены цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія, на наш погляд, нядрэнна мацавалі падмурак нацыянальна-культурнага Адраджэння, садзейнічалі інтэграванню беларускай культуры ў сусветны культурны працэс.

Прыгадаю свята славянскага пісьменства, скарынінскі юбілей, урачыстасці, звязаныя з ушанаваннем памяці Максіма Багдановіча. Нядаўна створаны Інстытут праблем культуры зараз распрацоўвае і ўкараняе найбольш актуальныя культурныя праграмы, да якіх будуць далучацца на дагаворнай аснове лепшыя творчыя і навуковыя сілы рэспублікі. Створана газета «Культура» і сумесна з СТД часопіс «Тэатральная Беларусь». Падрыхтаваны і прыняты на Вярхоўным Савеце «Закон аб культуры», адзін з нямногіх у былым Саюзе, які з'явіўся законнай асновай адраджэння нацыянальнай культуры і, што важна, у якім закладзены антырыначны механізм.

Зразумела, што побач з маштабнымі падзеямі, якія адбыліся за мінулыя гады на нашай нацыянальна-культурнай ніве, ёсць і другое — штодзённая нялёгкая праца па разгортванні працэсу беларусізацыі ва ўсіх звеннях культуры.

Адбываюцца пэўныя змены ў разуменні самога зместу дзейнасці культурных арганізацый. Ідзе працэс засяроджання ўвагі на адраджэнні святаў, абрадаў і традыцыйных відаў народнай творчасці.

Прафесійнае мастацтва ўзмацнілася за кошт адкрыцця шасці прафесійных тэатраў у Слоніме, Мазыры, Маладзечне (два тэатральныя калектывы), Гомелі (фальклорны тэатр), Менску (тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі).

Як і раней, мы робім усё магчымае, каб падтрымаць справу беларусізацыі прафесійнага мастацтва праз дзяржаўны заказ на спектаклі, канцэртныя праграмы, кінафільмы.

Рынкавая стыхія ўжо сёння дыктуе свае законы і патрабаванні да культуры. З кожным усплёскам інфляцыі нам усё больш не хапае фінансавых сродкаў, каб падтрымаць калектывы праз дзяржаўны заказ, захаваць каштоўную інфраструктуру культуры ад разбурэння і продажу яе ў «рабства камерцыі і нават прыватызацыі».

Таму Міністэрства культуры праводзіць палітыку выжывання, максімальна скарачаючы розныя дарагія і пампезныя мерапрыемствы: міжнародныя форумы і фестывалі, розныя дэкады, юбілеі, канферэнцыі і сходы, дарагія гастрольныя паездкі. У бліжэйшы час не будуць ствараца новыя прафесійныя творчыя калектывы. Усе сродкі, уся ўвага сканцэнтраваны на захаванні дзеючых, стварэнні для іх нармальных умоў. Галоўнае — не даць загінуць ніводнаму творчаму калектыву.

Застаецца спадзявацца, што наша незалежная дзяржава будзе клапаціцца не толькі пра захаванне і развіццё эканамічных структур, але і нацыянальных устаноў культуры, мастацтва, друку, аб сваім маладым пакаленні. Скажам прама — сёння ўжо цяжкавата перавучваць чалавека, якому за пяцьдзесят, выхаванага па формуле: «Мой адрес не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз». Нам трэба сёння зрабіць усё магчымае, каб стварыць цэласную, прадуманую сістэму нацыянальнага выхавання юнага пакалення — ад дзіцячых садкоў, школ і да універсітэта. Каб карэнным чынам змяніць сучаснае становішча ў грамадстве, трэба мяняць стратэгічнае мысленне і крытэрыі. Неабходна планаваць будучыню не на пяцігодкі ці да двухтысячнага года, а на пакаленні.

Упэўнены, усё рэзка зменіцца, калі выхаваем новае пакаленне моладзі, новую генерацыю, якая эстэтычна падрыхтавана, выдатна ведае гісторыю краіны, нацыянальную культуру, бліскуча валодае беларускай мовай. А для гэтага патрэбна прабудзіць у моладзі яе генетычную культурную памяць, нацыянальную свядомасць.

У сферы культуры і мастацтва вялікую ролю могуць адыграць нашы музычныя школы і школы мастацтваў, тэатр і творчыя калектывы, якія працуюць для дзяцей. Менавіта таму мы сталі спачатку пераводзіць на беларускую мову нашы лялечныя тэатры, арыентаваць на нацыянальны дзіцячы рэпертуар нашы музычныя калектывы. Беларускімі творамі за апошнія гады значна папоўніўся і рэпертуар драмтэатраў, што часткова яшчэ працуюць на рускай мове.

У заключэнне хачу сказаць, што як ні саматужна ідзе працэс укаранення і распаўсюджання ўплыву беларускай мовы, яго можна і трэба паскорыць, але ўжо нельга прыпыніць.

У гэтым працэсе трэба падкрэсліць выключнае значэнне самаахвярнай працы нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, згуртаванай і ў Таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны, і ў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, і ў БНФ, і ў «Бацькаўшчыне», і ў Нацыянальным культурна-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны.

Запэўніваю, што Міністэрства культуры будзе рабіць усё магчымае, каб быць на ўзроўні часу.

***Яўген ВАЙТОВІЧ,***
***міністр культуры***

**** На канферэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі Саветаў народных дэпутатаў розных узроўняў, старшыні гарвыканкамаў, райвыканкамаў, органаў дзяржаўнага кіравання. Але толькі двое з усіх запрошаных прысутнічалі.***

**** На сённяшні дзень у рэспубліцы — амаль 65 працэнтаў школ з беларускай мовай навучання. Яшчэ 17 працэнтаў распачынаюць працэс пераходу на беларускую мову навучання.***

**** На 1,8 мільёна экземпляраў павялічаны тыраж беларускамоўных падручнікаў і дапаможнікаў для першых класаў.***



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012




*Рубрыку вядзе*
*Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

Сапраўднай вяршыняй еўрапейскай лірыкі позняга Сярэднявечча і ранняга Адраджэння стала творчасць італьянскіх паэтаў. Вялікія Дантэ Алігеры і Франчэска Петрарка мелі таленавітых папярэднікаў. Сярод іх — Джакопа да Лентыні (канец XII ст.— паміж 1246 і 1250), якога шэраг даследчыкаў лічыць заснавальнікам санета, Энца Рэ (1220—1272) і Гвіда Кавальканці (каля 1259—1300).

### *Джакопа да ЛЕНТЫНІ*

* * *

Я службе Богу ўсёй душой адданы,
Каб у нябесным царстве апынуцца —
У месцы, ў пацерах шматкроць згаданым,
Дзе поўна радасці, дзе ўсе смяюцца.

Ды скрушна будзе мне без пекнай дамы,
У якой ля скроняў пасмачкі віюцца
Бялявыя — і твар такі жаданы:
Ніяк я не магу з ёй размінуцца.

Хай грэх мой не накліча абурэння,
Бо я ж не прагну болей анічога,
Апроч як выказаць ёй захапленне

Прывабамі аблічча дарагога.
Мне б радасцю было і суцяшэннем,
Каб на яе даброць сышла ад Бога.

### *Энца РЭ*

* * *

Вось ён — мой боль шалёны,
Што сэрца наскрозь працінае;
І ўсё маё цела жывое
Надмернай пакутай збалела.
Гэтак ірвуся штодзённа
Я, нібы хваля марская.
Ці, сэрца, жаданне такое
Ты маеш, каб вырвацца з цела?
Напэўна, было б лепш пакінуць
Табе яго, маё сэрца:
Лягчэй адзін раз памерці,
Чым мучыцца без супыну.
Бо той, хто ў пакутах знямогся —
На радасць ён спадзяецца:
Яму ўсё яшчэ здаецца,
Што думаць пра добрае трэба...

### *Гвіда КАВАЛЬКАНЦІ*

* * *

Вы, што мой розум абудзілі сонны,
Ўцінаючыся ў сэрца мне вачамі,
Мой дух, прашу Вас, падтрымайце самі,
Каханнем вынішчаным засмучоны.

Па душах, аслабелых і скароных,
Прайдзіцеся, бы вострымі нажамі —
І застанецца прывід перад Вамі·
Ды голас ціхі і безабаронны.

Вось — моц кахання, што мяне знішчае
Праз гэты неадхільны бляск вачэй,
Нібыта я паранены стралою.

І стрэл быў трапны гэты, бо ўцякае
Ужо душа мая як найхутчэй,
Адчуўшы злева сэрца нежывое.

**Пераклад з італьянскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

## *Проза*

*Вольфганг* ЛАНГЕ

# Дванаццаць вінаватых

*(Працяг. Пачатак у №№ 16—20).*

Я пакруціў галавой і расказаў пра моцны сон бюхельбуржцаў.

Фаўльхубер буркнуў:

— У гэтым закутку ніхто, здаецца, нічога не бачыць, не чуе і не гаворыць. Як тыя тры славутыя дурні. Баюся, што прыйдзецца яшчэ пазнаёміцца з бюхельбургскімі вадзянікамі.

Я запытаў у юнага пекара, ці ведае ён тых хлопцаў, якія наганяюць жах на гарадок, і што ён пра іх думае.

— Ведама ж, Венцэль гэты з Фолькерам і іншыя хлопцы — ого! Як сядуць на свае матацыклы, толькі і глядзі, каб не падбілі. Я ім не раўня, бо ў іх ёсць новенькія джынсы і грошы, якія яны трацяць на піва ў «Залатым анёле». Кожны дзень пасля полудня яны сядзяць там, пакуль дзяўчаты іхнія не зачыняюць крамы. Яны амаль усе прадаўшчыцы, а адна дык нават працуе ў салоне «Фігаро». Хлопцы правільныя. Голымі рукамі іх не возьмеш. Што ім Бесельман!..

— А пан Клёйдэрэр?.. — запытаў Фаўльхубер.

— А-а... ён...—хлапец канфідэнцыяльна падміргнуў.— Гэты з амбіцыяй. Клёйдэрэру абы прабрацца ў бургамістры, і што зробіш, прабярэцца. Гэтага п'яніцу ў нас ніхто не любіць!

Інспектар падняўся з крэсла і паклаў руку на плячо юнага бюхельбуржца:

— А ты нам памог. Калі што-небудзь яшчэ ўспомніш, прыязджай у Ландау, добра? Там я пакажу табе цікавыя рэчы — картатэку злачынцаў, якіх мы шукаем, і адбіткі іхніх пальцаў. Але зараз ідзі, а то мы забавіліся.

— Ці нельга крышачку пабыць тут? Можа, вы знойдзеце цела, і тады я сказаў бы вам, хто гэта.

Мы не ведалі, як адвязацца ад хлапца, які, відаць, мог бы рабіць нешта больш карыснае, чым толькі булкі пячы. Шчыра кажучы, было шкада, што такія кемлівыя хлапчукі наталяюць сваю прагу да прыгод толькі дэтэктыўнымі тэлефільмамі.

Неўзабаве вярнуўся з абходу Бесельман. Ён спацеў яшчэ больш, чым я, але таксама нічога не даведаўся. Я зразумеў, што мы селі ў лужыну. У нас не было ніводнага канкрэтнага доказу, ніводнага адбітку пальцаў, нікога, хто ўночы хоць што-небудзь чуў бы. Але інспектара гэта, здаецца, мала абыходзіла. Зрэшты, страты будзе мецъ страхавое агенцтва, а ў Ландау ніхто і брывом не павядзе. Каб мы надавалі значэнне кожнаму выпадку з крадзяжом машын, то давялося б падвоіць колькасць работнікаў вышуку. Але што ні кажы, гісторыя гэта казытала маю цікаўнасць. Мне чамусьці здавалася, што тут тоіцца нешта большае. Я нават пачаў баяцца, што Фаўльхубер абвесціць шабаш, і пішы прапала! Аднак ён прапанаваў уважліва прыглядзецца да васьмі паршывых авечак Бесельмана. Ён спытаў у обер-вахмістра, ці праўда, што пасля абеду можна заспець гэтых буянаў у «Залатым анёле».

Бесельман пацвердзіў:

— Зрабіце ласку, пан інспектар, зірніце ў акно: перад гасцініцай стаяць усе матацыклы. Цяпер без чвэрці пяць. Звычайна засядаюць яны там да шасці — у карты рэжуцца. Можна выклікаць іх на допыт па адным, аднак лепш узяць усіх разам, каб яны не змовіліся. Замкнём іх у зале сходаў, і хто-небудзь з нас папільнуе, каб яны ратоў не разяўлялі,— тут Бесельман пакасіўся ў мой бок: пэўна, думаў, што я гаджуся за нянькy.

Фаўльхубер глянуў у акно.

— Сем,— сказаў ён.— Можа, я лічыць не ўмею?

— Сапраўды, здаецца, сем! — Бесельман пачаў стукаць па шыбе: — Адзін, два, тры...

Восьмага не было — перад «Залатым анёлам», выстраіўшыся па-вайсковаму ў рад, стаяла толькі сем матацыклаў.

— Дайце мне сюды вашу манціроўку,— загадаў мне Фаўльхубер і раптам састроіў такі твар, быццам пачуў, як спяваюць прывіды.

Я пакорпаўся ў сваім партфелі і, нарэшце, знайшоў манціровачны ломік.

Інспектар паважыў яго спачатку ў правай, а потым у левай руцэ.

— Колькі такіх штук у наборы інструментаў? — запытаў ён.

— Дзве! — адказалі мы з Бесельманам у адзін голас.

— — Віншую вас, панове! Мы, так сказаць, маем справу з двайным лато. Інакш кажучы: дзе нітка, там і іголка. Калі знойдзем другую манціроўку, мы знойдзем і злачынца. Вы можаце разабраць, што тут напісана?

Я ледзь не скруціў сабе шыю, бо Фаўльхубер трымаў манціроўку так, што літары перавярнуліся дагары нагамі.

— «Жа-лез-ныя та-ва-ры Маг-ну-са, Дуйсбург»,— прачытаў я па складах. Побач на шэрым метале было выбіта чырвонае кляймо з эмблемай фірмы пасярэдзіне.

— Ну вось,— прамовіў інспектар,— нарэшце нешта ёсць. Калі сапраўды нехта з тых малойчыкаў узламаў гараж, значыць, у яго не хапае адной такой штукі. У інструментальнай скрынцы матацыкла ляжыць толькі адна манціроўка, і яна падобна на нашу, як дзве кроплі вады. На ёй таксама выбіта: «Жа-лез-ныя та-ва-ры Маг-ну-са, Дуйс-бург».

Колькі разоў у мяне ўжо свярбелі рукі смальнуць інспектару ў храпу! Чаму ён кпіць з мяне, чытаючы назву фірмы па складах? Літары ж для яго не стаяць галавой уніз.

— Цяпер яны ў нашых руках! — усклікнуў Бесельман.— Засталося толькі зачыніць пастку. Ці павінен я прывесці іх сюды і адразу ж пайсці па інструментальныя сумкі?

— Ці варта гэта рабіць,— сказаў Фаўльхубер.— Узнімецца шум і гвалт. І што будзе, калі яны, урэшце, акажуцца невінаватымі? Тады нам ганьба, і хлопцы пасмяюцца з нас. А вам, дарагі мой Бесельман, будзе яшчэ горш, чым цяпер. Мы проста пойдзем і пагаворым з імі. Так лепш. І, між іншым, папрасім, каб паказалі інструмент.

— Слухаюся, шэф! — сказаў я бадзёра. Гэта была контрмера супраць яго нядаўняй насмешкі. Але Фаўльхубер выйшаў ужо ў калідор, і атручаная страла трапіла яму толькі ў спіну, а яна ў яго была не больш адчувальная, чым у бегемота.

На рынку зноў палюднела. Якраз, калі мы выходзілі з рэзідэнцыі бургамістра, на плошчу прыехала шэрая развозачная аўтамашына з вялікімі літарамі на кузаве: «Аўтарамонтная служба». З яе выйшлі двое мужчын у сініх камбінезонах і ўважліва агледзелі «мерседэс». Потым закурылі цыгарэты. Некалькі жанчын з туга напакаванымі гаспадарчымі сумкамі спыніліся і з цікавасцю пазіралі на іх. Але мы накіраваліся да сямі матацыклаў, што стаялі перад «Залатым анёлам».

— Вы можаце вызначыць, чыёй машыны няма? — запытаў у Бесельмана Фаўльхубер.

Обер-вахмістр двойчы прайшоўся каля матацыклаў, як генерал перад фронтам ганаровай варты.

— Калі не памыляюся,— нарэшце сказаў ён,— няма машыны Венцэля Нэгерле. Да задняга сядзення ён чапляе лісіны хвост, якога я зараз нешта не бачу.

— Хто гэта — Вэнцэль Нэгерле?

— Сын фельчара.

Фаўльхубер зноў, мусіць, пачуў, як музіцыруюць прывіды; задумаўшыся, ён правёў пальцам па нікеліраваным рулі матацыкла. Нарэшце, сказаў:

— Калі мы сваю аперацыю раздробім, грош ёй цана. Праверыць іх трэба ўсіх адначасова альбо нікога. Пан Бесельман, даведайцеся, калі ласка, ці дома гэты Венцэль. Папрасіце, каб паказаў сваю інструментальную сумку, і гляньце, колькі там манціровак — дзве ці адна. Тым часам мы зоймемся астатнімі.

Обер-вахмістр скрывіўся: цяпер прыйшла яго чарга пабегаць. Магчыма, ён яшчэ пабойваўся, што мы не вельмі строга абыдземся з яго «прыяцелямі». Аднак ён слухмяна прыклаў руку да брыля і рэціраваўся.

Мы з інспектарам падняліся на ганак «Залатога анёла». Заезнаму дому было, пэўна, не менш як гадоў сто. Знадворку ён вабіў сваёй утульнасцю — зялёныя аканіцы, вінаград, што віўся над ганкам, прыгожая шыльда з каванага жалеза.

На дзвярах вісеў плакат — на чырвоным фоне белы круг з трыма чорнымі літарамі. Фаўльхубер злосна пакасіўся на іх.

— «Н» — нацысты, «Д» — дэгенераты, «П» — падонкі. Цьфу ты згінь-прападзі! — Ён азірнуўся.— Спадзяюся, вы з майго жарту не разадзьмеце палітычных пухіроў?

— Я, напрыклад, галасую за ХДС,— сказаў я.

— Вельмі вялікая розніца, павінен заўважыць.— Тыльным бокам далоні інспектар выцер верхнюю губу.— Дарэчы, ці ведаеце вы, што няроўнае ў чыжыка?

— Не,— адказаў я для прыліку, хоць досціп гэты быў стары як свет.— А што?

— А нічога. Абедзве нагі роўныя. Асабліва правая.

Я засмяяўся па абавязку службы і падумаў: «Куды гэта ён гне?»

Шынок сустрэў нас прыемнай прахаладой. Гаспадар стаяў за стойкай буфета і паласкаў пузатыя куфлі. За столікамі нікога не было. На дзвярах у глыбіні памяшкання віднеўся надпіс гатычнымі літарамі: «Зала нарад». Адтуль даносіўся смех і нейкі стук.

Мы пачакалі, пакуль вочы прызвычаяцца да паўзмроку, потым інспектар падышоў да буфета.

— Дзве шклянкі чырвонага, калі ласка, і шэсць цыгар.

Шынкар разглядаў нас, як забойную жывёлу на аўкцыёне. Ён паволі павярнуўся да паліц, узяў бутэльку і з шумам выцягнуў корак.

— Няшмат работы сёння? — запытаў Фаўльхубер.

Шынкар з булькатам наліваў віно ў шклянкі.

— Справы ідуць. Заўтра ў рабочых «Опеля» дзень выплаты. У канцы дня ўсе сюды заваляцца. А тады — падавай толькі. А вы як маецеся?

— Няма чым хваліцца.

Тоўсты шынкар, безумоўна, ведаў ужо, хто мы, і адразу ж закінуў вуду:

— Знайшлі ўжо яго? Увесь гарадок пра гэта толькі і гаворыць. Кажуць, пан Клёйдэрэр у ад'ездзе.

— Правільна,— адказаў я, смакуючы цудоўнае, халаднаватае віно.— Дзе, дарэчы, сынок ваш, пан Пфаншміт?

*(Працяг будзе).*



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

